# ПРАДМОВА

Гэты зборнік задуманы як пэрыядычнае выданьне па фатаграфіі. Беларусь даволі адметная ў гісторыі фатаграфіі і фотатворчасьці, хоць тут няма (і ніколі не было пад акупацыяй) ні вышэйшай, ні нават сярэдне-прафэсійнай адмысловай школы па навучаньні фатаграфіі і фатаграфічнаму мастацтву. Тым часам у краіне працавалі здольныя фотамайстры, фотакраязнаўцы, фотарэпарцёры, фотааматары. Аднак ніколі не было пэрыядычнага выданьня па фатаграфіі. Гэта сьведчаньне таго, што беларускай фатаграфіі як нацыянальнага мастацтва -- не існуе. Былі і ёсьць аўтары цікавага творчага кшталту, але асэнсаваньня фотамастацтва як нацыянальнай адметнай зьявы (пра што заўсёды сьведчыць наяўнасьць фатаграфічнай пэрыёдыкі) не адбылося і не адбываецца. Стан, у якім знаходзіцца фотамастацтва ў Беларусі з гледзішча мастацтвазнаўства -- гэта вечнае фотааматарства ды газэтнае рэпарцёрства, бо не зьвязанае зь лёсам народа.

Прычына вядомая. Акупацыйныя ўмовы і антынародная палітыка. Але акупацыйная палітыка спараджае мастацтва супраціву. Яго, аднак, няма. Каб асэнсаваць творчасьць як нацыянальнае пакліканьне, трэба ўсьвядоміць сябе нацыяй

Акупацыйная палітыка русіфікацыі і вынарадавеньня, узьведзеныя ў ступень ідэалогіі, зрабіла сваю справу. Яна працягваецца. Адэпты, выгадаваныя ў гэтай палітыцы, не цікавяцца сваім народам. Тым часам пранікненьне лёсам народа і ўсім, што ён стварыў, ёсьць першасная ўмова нацыянальнага мастацтва.

У жыцьці мне шмат чым прыходзілася займацца і шмат ад чаго адмовіцца дзеля палітыкі. Але творчасьць -- яна як вада, зьяўляецца сама сабой і ў нечаканым месцы.

У Амэрыцы беларусу здымаць складана. Гэта іншая краіна. Тут добрыя людзі, але няма ідэалаў. Таму мой падыход тут апісальніцкі, "грамадзкаграфічны", можа нават іранічны, але, мяркую, спатрэбіцца і для беларусаў, і для амэрыканцаў.

Здымаць людзей прыходзіцца, нажаль, у асноўным лічбавай камэрай, прытым найбольш "кампактам" і карыстацца схаванай здымкай. Гэта забясьпечвае мінімум затраты часу, якога не хапае. Апарат у кішэні. У кожны момант ён гатовы да справы. Тым ня менш, думаючы пра якасьць, я часам дазваляў сабе настальгічна паздымаць на чорна-белую стужку (і нават праявіць у ваннай). Але гэта ўжо выключэньне, бо становішча вымагае іншага.

Амаль 40-гадовы набытак маёй творчай працы ў Бацькаўшчыне і дзясяткі тысячаў розных нэгатываў мне даўно недасяжныя і, хутчэй за ўсё, як звычайна, будуць зьнішчаныя. Шкода, вядома, але такі ёсьць для нас зьмест вечнай вайны, якая пачалася яшчэ ад катастрофы ўтраты Вялікага Княства.

У Амэрыцы, нават калі паставіць задачу, -- рэалізавацца беларускаму мастаку амаль немагчыма. Беларускі мастак застаўся ў Беларусі. Тут -- іншае.

Тым ня менш мімаходзь у мяне вызначылася каля дзевяноста тэмаў (цікавых, магчыма, больш для амэрыканскай фатаграфіі). У гэтым першым нумары я друкую падборку "Тыпажы Нью-Ёрка". У альманаху я планую паказаць фатаграфіі беларускіх фатографаў, якія адлюстравалі беларускае жыцьцё, асэнсавалі беларускія вобразы. У бліжэйшых нумарах зьявяцца фатаграфіі Уладзімера Кармілкіна, Яўгена Шатохіна, Алеся Крыштаповіча і іншых.

У гэтым першым нумары палова выданьня пасьвечана Джону Кунстадтэру. Ягоная творчасьць -- гэта адметная зьява ў беларускай фатаграфіі. Па вялікаму кошту амэрыканец Джон Кунстадтэр рэальна зьяўляецца нацыянальным беларускім фатографам. Спадар Джон глыбока пранікся прыхільнасьцю да простых беларусаў і зь вялікай любовяй фатаграфуе жыцьцё, культуру, веру і быт нашых людзей. Ён валодае беларускай мовай, разумее і ўзьвялічвае простага чалавека. Кунстадтэр лічыць, што на простых людзях, на іх працы, руках, веры і ўкладзе жыцьця трымаецца беларуская нацыя.

Спадар Джон, які займаў высокую пасаду ў амэрыканскай дыпляматыі, прыйшоў у фотамастацтва, дзякуючы ўбачанаму ў Беларусі. У яго салідны падыход да тэхнікі творчасьці. Здымае толькі на чорна-белую стужку, надзейнай камэрай з добрай оптыкай. Амаль усе яго здымкі адкрытыя, зробленыя зь ведама і ў кантакце зь людзьмі. Тут выразны этнаграфічны падыход, але шчырасьць і непасрэднасьць беларусаў, зьнятых на фатаграфіях, заварожвае. Джон Кунстадтэр адлюстраваў аблічча, дух і харaство беларускіх людзей спагадна і міласэрдна.

Мне ўжо прыходзілася пісаць пра творчасьць спадара Кунстадтэра раней, у 2014 годзе, у рэцэнзіі на ягоную выставу. У гэтым выданьні перад падборкай ягоных фатаграфіяў я зьмяшчаю ўрывак з рэцэнзіі дзеля лепшага асэнсаваньня ягонай творчасьці.

* * *

Істотная інфармацыя: Гэтае выданьне не камэрцыйнае. Яно асьветніцкага кшталту. Выдаецца на сродкі аўтара. Падрыхтоўка, склад, кампутарны макет, графіка і кампутарная вёрстка робіцца аўтарам. ПДФ выданьня будзе зьмешчаны ў Інтэрнэце. Папяровы друк адбываецца ў Інтэрнэт-друкарні, што дае магчымасьць мінімізаваць затраты, друкуючы па некалькі экзэмпляраў па меры неабходнасьці.

*17 сакавік 2019 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# FOREWORD

This anthology has been planned as a periodical about photography. Belarus has a quite remarkable history of the fine-art photography, although our country doesn’t have (and didn’t have under the occupation) any high school nor even any college which train the photographers and photoartists. But many talented photoartists as well as local historians with the photo camera, photoreporters and amateur photographers acted in Belarus. We have never had any periodical about photography. It testifies that the Belarusian photography doesn’t exist as the art. There were and are many original authors, but the fine-art photography didn’t be recognized as a national characteristic (one of the conditions of the recognition is the existence of the periodic about photography). In terms of the art history the fine-art photography in Belarus represents the eternal amateur activities and reportages due to lack of communication with the nation’s fate.

The reason of this situation is known. There are the occupation and the antinational politics. The antinational politics generate the art of resistance. But we don’t have it. It is necessary to identify themselves as a nation in order to realize that the artistic activity is the national mission.

The occupation politics of the russification and denationalization became the ideology of the regime and determined the situation. Existing politics continue to take a heavy toll on our culture. The followers educated by these politics have no interest in their nation. Although the adaptation of the nation’s fate and all that was created by the nation represents the main condition for the national arts.

In my life I have done many things and have been forced to renounce many things because of my political activity. But the artistic activity is like water, it appears by itself and in unexpected places.

A Belarusian photographer’s task in America is complicated. America is a different country. There are many good persons here but the society lacks any values. Because of that my style is narrative, “sociographical”, may be even ironical. But I mean my works will be necessary for Belarusians and for Americans.

Unfortunately I have to take pictures of persons using mostly the digital camera, the

“compact” and the hidden footage. This secures the minimum of the waste of time. The camera is always in my pocket ready to action. Nevertheless I took care of the quality and sometimes used the black and white film as an act of nostalgia (I even developed some films in the bathroom). But these were the exceptions because the situation dictates some other working style.

Results of my almost 40 year long artistic activity as well as tens of thousands of negatives are unavailable to me for a long time. More likely they will be destroyed as usual. It’s pity but this is the meaning of eternal war begun yet since the catastrophe – the loss of the Great Principality.

The Belarusian artist almost cannot find personal fulfillment in America even he has set task to do it. The Belarusian artist has remained in Belarus. Here is a different situation.

Nevertheless I have realized c. 90 themes between this and then (they are interesting may be more for the American art-photography). I publish the series in this first issue Types of New York. I presume to present in this almanac the photos by the Belarusian photographers which have reflected the Belarusian life and interpreted the Belarusian images. In the next issues I will publish the photos by Uladzimier Karmilkin, Yauhen Shatokhin, Ales Kryshtapovich and others.

One half of the almanac’s first issue is devoted to Jean Cunstandter. His creative work is remarkable for the Belarusian photography. The American Jean Cunstandter really is a national Belarusian photographer. Mister Jean has very deep feelings for the ordinary Belarusian people and takes pictures of its life, culture, religion and lifestyle with great passion. He speaks Belarusian, understands and glorifies the ordinary people. Mr. Cunstandter means that the Belarusian nation is based on the ordinary people, its work, its hands, its religion and its lifestyle.

Mr. Jean who had been a high-ranking official of the American diplomacy has started his activity in the art-photography due to his impressions of Belarus. He pays special attention to the technical problems. He takes pictures using only the black and white films and the reliable camera with good optics. Almost all of his pictures were made publicly with the knowledge and cooperation of persons. His interpretation is pronouncedly ethnographic. But the sincerity and spontaneity of the Belarusian people in these photos are fascinating. Jean Cunstadter has reflected the faces, spirit and fairness of the Belarusian people with the sympathy and compassion.

2014 I have just written about the work by Mr. Cunstandter in my review of his exhibition. I publish a fragment of my review before the anthology of his photos in this issue in order to let to understand better his work.

* * *

This is a very important information. This issue is not commercial but is a cultural event. It is published at the expense of the author. The author has executed the preparation, arranging, computer layout, graphic and computer making-up of the issue. PDF edition of the almanac will be placed on the Internet. The paper edition is realized by the Internet publisher. That allows to reduce the costs printing several copies as required.

*March 17, 2019* Zianon PAZNIAK

***Зянон Пазьняк.*** Беларускі палітык, навуковец, публіцыст, фотамастак, пісьменьнік і паэт (год нараджэньня 1944). Кандыдат мастацтвазнаўства. Займаўся гісторыяй мастацтва і археалёгіяй. У 1988 годзе адкрыў і археалягічна дасьледваў Курапаты пад Менскам – месца камуна-расейскага генацыду і масавых расстрэлаў беларускага насельніцтва ў 1937-1941 гг. Заснавальнік і адзін з арганізатараў Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" (БНФ, 1988 г.) З 1989 г. – старшыня БНФ. У 1990-96 гг. – дэпутат Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня (парляманту), караўнік парляманцкай Апазацыі БНФ. Вылучыў канцэпцыю незалежнасьці Беларусі. Пад яго кіраўніцтвам Народны Фронт і дэпутацкая Апазыцыя БНФ у жніўні 1991 г. дамагліся незалежнасьці краіны. Стварыў і ўзначаліў Ценявы Кабінэт, куды ўвайшлі лепшыя вучоныя, палітыкі і грамадзкія дзеячы Беларусі. У 1994 г. – кандыдат у прэзыдэнты Рэспублікі Беларусь. Пасьля ўсталяваньня прамаскоўскага аўтарытарнага рэжыму Лукашэнкі кіраваў Народным Фронтам і знаходзіўся ў апазыцыі да рэжыму. У 1996 г., пазьбягаючы арышту і заплянаванага забойства з боку антыдэмакратычнага рэжыму, вымушаны быў пакінуць Беларусь.

Аўтар шматлікіх кніг па палітыцы і канцэпцыі Беларускага нацыянальнага Адраджэньня, па мастацтву, архітэктуры і фатаграфіі. Выдаў некалькі зборнікаў паэзіі і фотаальбомаў, сябра Беларускага ПЭН-цэнтру. Старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ (КХП—БНФ), Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". З 1996 г. знаходзіцца ў палітычнай эміграцыі (адкуль ажыцьцяўляе агульнае палітычнае кіраўніцтва Партыяй і рухам).

*(Інфармацыя КХП—БНФ)*

***Zianon Pazniak***. The Belarusian politician, scientist, publicist, photographer, writer and poet (born 1944). Doctor of the art history. He researched the art history and carried out the archeological excavations. 1988 he has revealed Kurapaty near Minsk – a place of the communist Russian genocide against the Belarusian people and mass killings of the Belarusian population in 1937-41 and carried out the archeological excavations in this place. 1988 he was the founder and one of the organizers of the Belarusian Popular Front "Adradzennie" (the BPF). Since 1989 he is the Chairman of the BPF. In 1990-96 he was MP of the Supreme Soviet of Belarus of the 12th convocation and acted as the leader of the parliamentary opposition of the BPF. He has elaborated and presented the conception of the independence of Belarus. The Belarusian Popular Front and the parliamentary opposition of the BPF under his leadership achieved the proclamation of the independence of Belarus in August 1991. He has formed the Shadow Cabinet with the best scientists, politicians and public figures of Belarus as members and acted as its leader. 1994 he was nominated a candidate on the presidential elections. After the pro-Moscow authoritarian Lukashenka regime has been established in Belarus he acted as the Chairman of the Belarusian Popular Front in the opposition to the regime. 1996 he was forced to leave Belarus in order to escape the arrest and because the regime has planned to kill him.

He is author of many books on the politics and the conception of the Belarusian national Rebirth, art history, architecture and photo. He has published some collected poetries and photo albums. He is member of the PEN-center. Now he is the Chairman of the Conservative Christian Party – BPF and the Belarusian Popular Front "Adradzennie". Since 1996 he is acting in the political emigration and leading the political activity of the Party and the BPF.

*(The information of the Conservative Christian Party – BPF )*



*Фот.а С. Навумчыка*




Фот. 1.   Нью-Ёрк. Від на "Эмпайр-білдынг". (2017г)  // New York. Empire Building. (2017).




Фот. 2. Нью-Ёрк дажджлівым днём (2000 г.) // On a Rainy Day in New York (2000).




Фот. 3. "Брайтан-біч" эвэню. (1996 г.) // The Brighton Beach Avenue. (1996).



Фот. 4.   Спадарыня ў маркотным настроі. (2017г.) // A Woman Is Not in the Mood. (2017).



Фот. 5. Уражлівая падзея. (2017 г.) // An Exciting Event. (2017).




Фот. 6. Жанчына з славянскім абліччам. 2017 г.) // TA Woman With the Slavic Appearance. (2017).




Фот. 7. Амэрыканка ў капелюшы. (2017 г.) // The American Woman in the Hat. (2017).




Фот. 8. Амэрыканцы на пераходзе. (2017 г.) // Americans Are Crossing the Street. (2017).




Фот. 9. Музыка "Кантры". (2018 г.)  // Country Music. (2018)



Фот. 10. Партрэт амэрыканкі. (2018 г.) // A Portrait of an American Woman. (2018).



Фот. 12.   Магутная дзяўчына (2018 г.) // A Hefty Girl (2018).




Фот. 13. Юначка прыехала ў горад Нью-Ёрк (1996 г.) // She Arrived in New York City (1996).



Фот. 14.  Жанчына з доўгім пальцам.(2018 г.) // The Woman With a Long Finger. (2018).



Фот. 15. Жанчына ў сукенцы з афрыканскімі малюнкамі (2017 г.) // A Woman in the Dress with African Patterns (2017).



Фот. 16. Позірк з Азіі (1996 г.) // The Glimpse of Asia (1996).



Фот. 17. Модніца выходзіць з крамы. (2018 г.) // A Fashionista Is Leaving the Store. (2018).



Фот. 18. З самалёта ў Амэрыку. (2018 г.) // Arrived by Plane to America. (2018).



Фот. 19. Свабодны чалавек сьпіць на вуліцы ў цэнтры Манхэтана. (2018 г.) // A Free Man Sleeps on the Street in the Center of Manhattan. (2018).




Фот. 20. Жыхар Амэрыкі. (2017 г.) // An American. (2017).



Фот. 21.  Японка ў натоўпе. (2017 г.) // A Japanese Woman in the Crowd. (2017)



Фот. 22.  Прадказальніца лёсу (2017 г.) // A Prophetess (2017).



Фот. 23. Чалавек без галавы (2017 г.) // A Man without the Head (2017).



Фот. 24. Аблічча з далёкай Азіі (2018 г.) // A Face from Distant Asia (2018).




Фот. 25. "Лацінас" (2004 г.) // The Latinos (2004).



Фот. 26.  Мінакі. (2018 г.) // Passers. (2018).



Фот. 27.  Паліцэйскія. (2018 г.) // Policemen. (2018).




Фот. 28. Падтрымка штаноў (2018 г.) // The Pants Support (2018).




Фот. 29. Прапагандыст прыродных тавараў. (2018 г.) // The Promoter of Natural Products. (2018).




Фот. 30.  Салістка хору. (2018 г.) // The Soloist in the Choir. (2018).




Фот. 32. Наравісты муж (2018 г.) // A Wayward Husband (2018)



Фот. 33. Цяжкі лёс закаханага мужа (2018 г.) // The Loving Husband’s Plight (2018).




Фот. 34. Замілаваньне на вуліцы. (2012 г.) // The Tenderness on the Street. (2012).




Фот. 35.  Дае парады за 25 цэнтаў. (2018 г.) // She Gives Advice for 25 Cents. (2018).



Фот. 36.  "Эндшпіль" (1918 г.) // The Endgame (1918).



Фот. 37. Хто каго "дамагаўся"? (2018 г.) // Who “Harassed” Whom? (2018)




Фот. 39. Пасадка ў лімузін (1997 г.) // Getting in the Limousine (1997).



Фот. 40. Чалавек з сабакам (2009 г.) // A Man with the Dog (2009).




Фот. 41. Бяздомная цягне вазок з пажыткамі (2018 г.) // A Homeless Woman Pulls the Cart with their Belongings (2018).




Фот. 43. Чалавек, які жыве на вуліцы (2018 г.) // A Man Who Lives on the Street (2018).



Фот. 44. Тыпаж у начным мэтро (1996 г.) // A Man in the Underground at Night (1996).




Фот. 45. Прапаганда нянавісьці (2018 г.) // The Hate Propaganda (2008).



Фот. 46. Мажная жанчына. (2017 г.) // A Hefty Woman. (2017).



Фот. 47.  Задуменны настрой (2018 г.) // The Reflective Mood (2018)



Фот. 49. Дзьве спадарыні размаўляюць туманнай раніцай (2017 г.) // Two Women Talking in the Misty Morning (2017)



Фот. 50. "Гоўм аттэндэнт" і яе кліентка (2018 г.) // Home Attendant and Her Client (2018).



Фот. 51. Трох сур'ёзных мужчын размаўляюць на беразе акіяна. (2018 г.) // Three Serious Men Talking on the Ocean Beach. (2018).



Фот. 52.  Характэрны профіль. (2018 г.) // A Characteristic Profile. (2018).



Фот. 53. Тыпаж пад брылём. (2016 г.) // A Man under the Visor. (2016).




Фот. 54-55. З сэрыі "Вульгарнае захаваньне" (дыптых) -- 2018 г. // From the Series Vulgar Behavior (Diptych) - 2018.




Фот. 54-55. З сэрыі "Вульгарнае захаваньне" (дыптых) -- 2018 г. // From the Series Vulgar Behavior (Diptych) - 2018.



Фот. 56-57. Прыбярэжны рэстаран (дыптых). 2018 г. // The Coastal Restaurant (Diptych). 2018.




Фот. 56-57. Прыбярэжны рэстаран (дыптых). 2018 г. // The Coastal Restaurant (Diptych). 2018.



Фот. 58-61. Пагулянка па беразе акіяна. Сэрыя. (1) -- Дзелавыя людзі; (2) -- Вясёлыя японцы; (3) -- Наравістая спадарожніца; (4) -- Спадарыня, пагружаная ў сябе. (2018 г.) // A Promenade on the Ocean Beach. Series. (1) - Business People; (2) – Amused Japanese People; (3) – A Capricious Partner; (4) – The Women Is into Herself. (2018).



Фот. 62. Перад бяздонным вечным небам. (2017 г.) // Before the Bottomless Eternal Heavens. (2017).

***Джон Кунстадтэр*** – амэрыканскі дыплямат. Апошняе месца ягонай працы – Амбасада ЗША у Рэспубліцы Беларусь. У 2005 годзе Джон Кунстадтэр пайшоў у адстаўку з амэрыканскай дыпляматычнай службы. На працягу апошных гадоў ён увесь свой час прысьвячае фатаграфіі. Ён фатаграфуе людзей у Беларусі. Пэрсанальныя выставы пра архітэктурную і духоўную спадчыну Беларусі і беларускае кола года зрабіў у Гародні, Паставах і ААН у Нью-Ёрку, супольна са Сталым прадстаўніцтвам Беларусі ў ААН (2008 г.); у Дзяржаўным літаратурным музэі Янкі Купалы ў Менску (2010 г.); у філіале Дзяржаўнага літаратурнага музэя Янкі Купалы ў Вязынцы і ў Браславе, Паставах ды Народным фотаклубе "Менск" (2011 г.); у Беларускім нацыянальным тэхнічным унівэрсітэце, у Ўільліямс Калэдж (Williams College) у штаце Массачузэтс (2012 г.); у беларускім Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне (2014 г.); у Дзяржаўным літаратурным музэі Янкі Купалы ў Менску (2016 г.). Ён таксама ўдзельнічаў у трох супольных выставах у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі (2006-2007). Джон Кунстадтэр працягвае фатаграфаваць людзей, архітэктуру і краявіды Беларусі.

* * *

***John Kunstadter*** -- US diplomat. Last place of work -- The US Embassy in the Republic of Belarus. In 2005 John Kunstadter retired from the U.S. Foreign Service. Since then he has devoted himself to photography. He photographs people in Belarus. He has held individual exhibitions on the architectural and spiritual patrimony of Belarus and the Belarusan cycle of the year in Harodnja, Pastavy and at the UN Secretariat Building in New York in cooperation with the Permanent Mission of Belarus to the UN (2008); at the Janka Kupala State Literary Museum in Mjensk (2010); at the Janka Kupala State Literary Museum branch at Vjazynka, at the History Museum in Braslau, in Pastavy and at the National Photo Club (NFK) in Mjensk (2011); at the Belarusan National Technical University in Mjensk and at Williams College in Williamstown, Massachusetts (2012); at belarusan St. Cyril of Turau Cathedral in Brooklyn, NY (2014); and at the Janka Kupala State Literary Museum in Mjensk in connection with the presentation of "Kab adnojchy" (2016) . He also participated in three joint exhibitions at the National Library of Belarus (2006-2007). John Kunstadter continues to take pictures of people, architecture and landscapes of Belarus.

# МАСТАЦТВА СЬВЯТЛА

... Выпадкі захапленьня нашай мовай і праявы сантыментаў да Беларусі я спатыкаў часта. Добрыя людзі з-за мяжы ўмеюць дакладна адчуць шчырую сутнасьць нашага народа. Яна ім падабаецца. Часам, магчыма, таму, што знаходзяць у нас тое, што страцілі ўжо ў сябе дома.

З заходніх людзей мы знаходзім найбольшае разуменьне і падтрымку, як ні дзіўна, у амэрыканцаў. Я кажу "як ні дзіўна", бо вельмі ж ужо розныя грамадзтвы і тыпы мэнтальнасьці. Але сантымэнты тут, на мой погляд, ня толькі ад таго, што некаторыя зь іх яшчэ знаходзяць у Беларусі тое, што ўжо затаптана ў ЗША. У Амэрыцы жыве разуменьне і адчуваньне вялікай каштоўнасьці нацыянальнай свабоды. У Амэрыцы гэта шануецца, і нацыянальныя пачуцьці таксама. Вось тут шмат якія амэрыканцы здольныя ўбачыць нашу бяду, а мы ў гэтым становуча ўспрымаем амэрыканцаў.

Нядаўна я пазнаёміўся з такім прыхільным амэрыканцам. Гэта вядомы ўжо беларусам Джон Кунстадтэр, шчыры фотааматар і творчы фотамастак. (Фатаграфіі Кунстадтэра можна паглядзець на ягонай старонцы http://radzimaphoto.com/ ). У нядзелю, 3 жніўня, у беларускім саборы сьвятога Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку адчынілася выстава фатаграфіяў Джона Кунстадтэра. Ён здымае ўжо шмат гадоў

людзей у Беларусі, найбольш – на Палесьсі. Характэрнасьць яго творчасьці – станоўчыя вобразы, сьветлы быт людзей і сьветлая вера. Гэта сьвядомая эстэтычная канцэпцыя Джона, і зыходзіць яна, як я зразумеў, з сьветлых адносінаў і пашаны да нашых людзей. Гэта вельмі кранае. З другога боку гэта правільна і разумна.

Жывучы ў сваім "космасе", мы, беларусы, як бы не заўважаем звычайнага і не зьвяртаем увагі на тое, што нам звыкла. Чалавеку з-за мяжы тое, што нам звычайна і штодзённа, -- здаецца навіной і нашай сутнасьцю. Ён стараецца адлюстраваць гэта ў творчасьці і як бы адчыняе нам нас самых. Але для гэтага патрэбны сьветлы талент (сьветлы геній) і здольнасьць любіць людзей. Прынамсі, паважаць іх. Такі ёсьць Джон Кунстадтэр у сваёй беларускай творчасьці. Бальшыня яго фота на выставе – гэта беларусы, зьнятыя ў цэрквах, у працы і ў побыце, жыхары Століншчыны (вёскі Рубель, Аздамічы, Альшаны і іншыя). Дарэчы, я там неаднаразова бываў у 60-х гадах і пазнаю на фота той нязьменны дух.

Джон тонка разумее беларусаў. Калі першы раз падыходзіш, скажам, да незнаёмай бабулі (кажа фотамастак) і пачынаеш гаварыць (а Джон добра ўмее размаўляць па-беларуску), то ніякія твае лёзунгі, думкі, ідэі, ацэнкі і г. д. ня маюць уплыву і значэньня. Бабуля глядзіць, слухае і вырашае адзінае пытаньне: хто перад ёй – сумленны чалавек ці махляр. І калі яна тое вырашыла, тады адпаведным чынам і вядзецца размова.

Часам нешта ўражвае амэрыканца, а для беларуса нават незразумелая прырода яго зьдзіўленьня. У Джона ёсьць вядомая фатаграфія “Маруся і яе дочкі”. На фота тры прыгожыя беларускі, якія, я б сказаў, ствараюць атмасфэру прыгожых душаў і добрага беларускага побыту (фатограф усё гэта добра выявіў у фатаграфіі.) У гэты час (распавядае мастак) якраз падыходзяць два падлеткі гадоў 15-16-ці. Адзін зь іх – сын жанчыны, субяседніцы Джона. Яна і кажа сыну гэтак сабе ціха і спакойна, што яму трэба пайсьці і зрабіць тое і тое. Сын усё кінуў і моўчкі пайшоў рабіць тое, што сказала маці.

Ну што можа быць больш звыклага ў нас, у Беларусі і хто на тое будзе зьвяртаць увагу? Тым часам Джон уражаны. Ён пытае ў кабеты, а чаму сын пайшоў рабіць тое, што яна сказала? “Мусіць”, -- адказала жанчына і далей гаворыць сабе пра іншае. І мастак распавядае нам, як гэта добра ды хораша.

Тут павінен патлумачыць беларусам, якія, напэўна ж, не разумеюць, у чым справа. Амэрыканцы ў сем’ях сваіх дзяцей, як правіла, не выхоўваюць, не прывучаюць і не прымушаюць. Бацькі ў асноўным занятыя самы сабой. У амэрыканцаў часта звыклая справа, што дзеці нічога ня ўмеюць рабіць, не дапамагаюць бацькам і г. д. Адпаведна, асабліва ў падлеткавым і юнацкім узросьце, дзеці бацькоў часта ня слухаюць, часам нават і не паважаюць. Такое становішча цяпер пашыраецца, амэрыканская сям’я перажывае крызіс. (Пра прычыны і праблемы крызісу я тут не кажу.)

І вось амэрыканец, ведаючы сваё грамадзтва, прыязджае ў Беларусь, у веруючую Століншчыну і бачыць гарманічныя сем’і, разумны быт, дзе людзі яшчэ не забыліся Запаведзі і, вядома ж, асноўную Хрысьціянскую Запаведзь культуры: “Шануй бацьку свайго і маці сваю”. І амэрыканца яно ўражвае. Удакладню: сьветлага, добрага амэрыканца. Разбэшчанаму чалавеку ўсё прыстойнае – праціўна і незразумела. Ён схільны пасьмяяцца над цнотай і сьвятым.  Ды і не паедзе такі ў царкву ці на поле, дзе полюць буракі. А вось Джон паехаў і адчыніў для сябе цэлы сьвет, які стаў часткай яго творчага духа, а можа нават і жыцьця. “Вось-вось, -- кажа Джон, -- ад’язджаю ў Беларусь на жнівень. Вельмі творчы месяц, поўна царкоўных сьвятаў ды збор ураджаю. Ёсьць што здымаць. Ёсьць што пабачыць”.

“Ю вэлкам!” І, як кажуць фотамастакі, -- “добрага сонца!”.

*8 жніўня 2014 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# THE ART OF LIGHT

... I have meet many persons who were interested in our language and expressed sentiments to Belarus. Good foreign persons are able to feel even the sincere essence of our nation. They like this sincerity. May be they discover in us something what they have lost just in their countries.

This is surprising but the Americans understand and support us better than other Western peoples. I say “this is surprising” because our societies and types of mentality are very different. But, in my opinion, many persons are expressing the sentiments not only because they reveal in our country something what has ceased to exist in America. In America there are the understanding and the feeling of the great value of national freedom which are esteemed in America as well as the national feelings. Because of that many Americans are able to see our tragedy and we perceive positively the Americans.

I recently met such a friendly American. This is Mr. Jean Cunstadter, a sincere amateur photographer and a good phtotoartist just known in Belarus. (You can see the photos by Mr. Cunstadter on his page http://radzimaphoto.com/). August, 3, 2018 an exhibition of Jean Custander’s photos has been inaugurated in the St. Kiryla Turauski Cathedral in New York. He takes pictures of the people in Belarus during several years, especially in the region of Palessye. His work is distinctive by the positive images, optimistic lifestyle of the people and their elevated belief. This is the conscious esthetic conception of Jean which has its source in his rapprochement and his respect for our people. This is very charming. On the other hand this is a right and clever position.

Living in our “space” we – Belarusians – as if don’t notice the ordinary things and don’t pay attention to something we are accustomed to. A foreigner perceives these ordinary and day-to-day apparitions as a revelation and as our essence. He seeks to reflect that in his work and as if reveals us for us themselves. But it is necessary to have a sublime talent (a sublime genius) as well as ability to love people in order to achieve that. At least it is necessary to have the ability to esteem them. This is the attitude of Jean Cunstander expressed in his Belarusian work. The major part of his photos in this exhibition represents the Belarusians of the Stolin region (the villages Rubel, Azdamichy, Alshany etc.) in the churches, at work and in daily life. By the way, I visited this area several times in 1960s and I recognize the same unchangeable spirit in these photos.

Jean understands very subtly the Belarusian people. He says: when do you approach, for example, some unknown old lady and begin to speak (Jean speaks very well Belarusian), your slogans, thoughts, ideas and views etc. don’t matter. The old lady looks at him, listen him and resolves the unique problem: who is before her – a decent or worthless person. If she takes the decision, she will speak accordingly with him.

Sometimes the American is impressed by something and the Belarusian doesn’t understand the reason of his reaction. Jean has a known photo Marusya and her daughters. There are three nice Belarusian women who, I mean, create an atmosphere of the beautiful soles and good Belarusian day-by-day life. (The author has expressed this in his photo). At the same time (the author tells) two teenagers 15-16 year old came to them. One of them is Marusya’s son. She tells him very quietly where to go and what to do. The son went to do the task given by his mother.

That is a very ordinary situation in our country. Who will pay attention to this episode? But Jean was impressed by it. He has asked the woman why her son had gone to do the task? “He should do it”, -- she has answered and continued to talk with the photoartist. And he tells us how good and nice is this tradition.

I must explain this situation to the Belarusians who don’t understand what the issue is. Generally the Americans don’t educate nor train and nor force their children in the families. As usual the parents are busy with their own lives. Very often their children are not able to do something or to help to their parents etc. Because of that the children (especially the teenagers and the young people) are disobedient to parents and even don’t esteem them. This situation became universal and the American family is in crisis. (I don’t mention

here the reasons and problems of this crisis).

The American who knows his society came to Belarus, to the religious Stolin region and sees the harmonious families, the balanced lifestyle where the people didn't forget the Christian Commandments and the main Christian Commandment of culture "Esteem your mother and your father". The American is impressed. I confirm that this is a hearty and good American. Some depraved person defines all the decent things as disgusting and doesn't understand them. Such a person is tempted to mock the virtue and sacred. He would not go to the church or to the field where the people is weeding beetroots. But Jean has gone there and revealed for himself an entire world which become a part of his artistic spirit and may be of his life. Jean says: "Yes, I go to Belarus in August. This is a very creative time with a lot of religious holidays and the farmers are harvesting. I have a lot something to point my camera at and to see".

You welcome! And as photoartists use to say, -- "Good sun to you!"

*August 8, 2014* Zianon PAZNIAK



*Фота Зянона Пазьняка*

## Джон Кунстадтэр. Звычайныя людзі Беларусі
## The ordinary people of Belarus




Фот. 1. Дарога Цярэблічы-Мачуль // Tsjareblichy-Machul Road




Фот. 2.  Дарога Цярэблічы-Мачуль // Tsjareblichy-Machul Road



Фот. 7.  Камень, 2009 г. // Kamjen', 2009.



Фот. 8. Дабраслаўленьне велікоднага хлеба. Аздамічы, 2009 г. // Blessing of Easter Bread for Tsjerabljukou, Azdamichy, 2009.



Фот. 9.  Рымцелі, 2007г. // Rymtsjeli, 2007.



Фот. 10. Партрэт беларусаў. Вадохрышча. Аздамічы // Portrait of Belarusans. Vadokhryshcha. Azdamichy.



Фот. 11. Сьвята Іконы нерукатворнай. Рубель, 29 жн. 2011 г. // Feast of the Icon Not Made by Human Hands (Aug. 29), Rubel' 2011.




Фот. 12. Прастольнае сьвята сьв. Тройцы. Аздамічы, 2018 г. // Mattins Patronal Feast of the Holy Trinity Orthodox Church of the Holy Trinity Azdamichy, 2018.




Фот. 13. Партрэты з Палесься на Тройцу. Аздамічы, 2018 г. // Portraits of Polesia Patronal Feast of the Holy Trinity. Azdamichy, 2018.




Фот. 14. Партрэты з Палесься на Тройцу. Аздамічы, 2018 г. // Portraits of Polesia Patronal Feast of the Holy Trinity. Azdamichy, 2018.



Фот. 16. Цярэблічы, 2010 г. // Tsjareblichy 2010.




Фот. 17. Партрэты з Палесься на Тройцу. Аздамічы, 2018 г. // Portraits of Polesia Patronal Feast of the Holy Trinity. Azdamichy, 2018.



Фот. 18. Прычашчэньне дзяцей на Тройцу. Аздамічы, 2009 г. // Children's Communion, Patronal Feast of the Holy Trinity, Azdamichy, 2009.



Фот. 19. Прастольнае сьвята прарока Ільлі. Вялемічы, 2010 г. // Patronal Feast of the Prophet Elias. Vjaljemichy, 2010.




от. 20.  Хрэсьбіны. Трайное хрышчэньне. Альгомель // Christening. Alhomjel.



Фот. 21.  Хрышчэньне ў доме. Цярэблічы // Christening at Home Tsjareblichy.




Фот. 22. Беларусь у абліччах. Аздамічы // Belarus in Faces. Azdamichy.




Фот. 23. Беларусь у абліччах. Аздамічы // Belarus in Faces. Azdamichy 2011.



Фот. 25. Пасадка бульбы. Камень, 2009 г. // Planting Potatoes. Kamjen', 2009.




Фот. 27. Талмачава, 2009 г. // Talmachava 2009.



Фот. 28. Рамонт трактара. Цярэблічы, 2012 г. // Repair the tractor. Tsjareblichy, 2012.




Фот. 29. Прыехаў з поля пасьля пасадкі бульбы. Цярэблічы, 2011 г. // After Potato planting. Tsjareblichy-2011.




Фот. 30. Рукі. (Цярэблічы, 2010 г.) // Hands.(Tsjareblichy, 2010).




Фот. 31. Партрэт з Палесься. Аздамічы, 2018 г. // Portraits of Palesia Azdamichy, 2018.



Фот. 32. Аздамічы, 2006 г. // Azdamichy, 2006.



Фот. 33. Верасьніца, 2010 г. // Vjeras'nitsa, 2010.




Фот. 34.  Эвангельскае Хрышчэньне вадой. Альшаны // Evangelical  Baptism. Alshany.




Фот. 35. Эвангельскае Хрышчэньне вадой. Альшаны // Evangelical Baptism. Alshany.




Фот. 36.  Вадохрышча. Цярэблічы, 2019 г. // Vadokhryshcha. Tsjareblichy, 2019.




Фот. 37. Палескія партрэты Паліны і яе трох унукаў. Дабраславеньне дома на Вадохрышча. Аздамічы, 2019 г. // Portraits of Polesia Palina and Her Three Grandsons. Blessing of Houses on Vadokhryshcha. Azdamichy, 2019.




Фот. 38.  Кахановічы, 2007 г. // Kachanovichy, 2007.




Фот. 39. Партрэты Палесься. Галіна, яе дачка Ангеліна. Дабраславеньне дома на Вадохрышча. Аздамічы, 2019 г. // Portraits of Polesia. Halina Her Daughter Anhjelina. Blessing of Houses on Vadokhryshcha. Azdamichy, 2019.



Фот. 40. Пярэдадзень Траецкай надзелі -- Зялёная субота. (Рубель), 2010 г. // Eve of Trinity Sunday Zjaljonaja subota, (Rubel'), 2010.



Фот. 41.  Пётра і Валянціна. Аздамічы. // Pjotr and Valjantsina. Azdamichy.



Фот. 43. Верасьніца, 2010 г. // Vjeras'nitsa, 2010.




Фот. 44. Кросны. (Цярэблічы) // The Loom. (Tsjareblichy).



Фот. 45. Хрысьцябалавічы, 2009 г. // Khrys'tsibalavichy, 2009.




Фот. 46. Партрэт зь Менску, 2010 г. // Portraits of Mjensk, 2010.




Фот. 47. Марынаваньне агуркоў. Цярэблічы, 2011 г. // Pickling. Tsjareblichy, 2011.



Фот. 48. Унутраннае асьвятленьне. Какорыцы, 2007 г. // Interior Light. Kakorytsy, 2007.




Фот. 49. Касьцёл (1744—1756) у Лужках // Churches of Belarus, Luzhki (1744—1756).




Фот. 50. Дзень Унебаўзяцьця. Мёры, 2011 г. // Assumption Day. Mjory, 2011.




Фот. 51. Дзень Унебаўзяцьця. Мёры, 2011 г. // Assumption Day. Mjory, 2011.




Фот. 52.  Вялікдзень // Easter.



Фот. 53.  Вялікдзень // Easter.



Фот. 54. Крыжы Беларусі. Гудзеняты, 2018 г. // Crosses of Belarus. Hudzjenjaty, 2018.



Фот. 55.  Збор касачоў для сьвята Тройцы ў нядзелю. Цярэблічы, 2012 г. // Collecting reeds for Trinity Sunday.  Tsjareblichy, 2012.



Фот. 56. Вербніца. Iuje, 2009 г. // Palm Sunday. Iuje, 2009.



Фот. 58.  Стары надмагільны камень на могілках старавераў. Масьцішча, 2018 г. //  Old Grave Old Believer Cemetery Mastsishcha, 2018.




Фот. 59. Дарога Цярэблічы-Мачуль, 2007 г. // Tsjareblichy-Machul Road, 2007.




Фот. 61. Радаўніца. Аздамічы, 2011 г. // Radaunitsa. Azdamichy, 2011.




Фот. 62. Тройца, нядзеля. Забор'е (Расонскі раён), 2007 г. // Trinity Sunday. Zabor'je (Rasony District), 2007.



Фот. 63. Засецьце, 2014 г. // Zasjetstsje, 2014.

# Кнігі, выдадзеныя Зянонам Пазьняком за мяжой

1. Зянон Пазьняк. Камунізм як форма рускага імпэрыялізму. – Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2000 г.
2. Зянон Пазьняк. Новае стагоддзе. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2002 г.
3. Зянон Пазьняк. Гутаркі з Антонам Шукелойцем. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2003 г
4. Зянон. Вялікае Княства. -- Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2005 г.
5. Зянон. Вялікае Княства (2-е выданьне). -- Варшава, «Беларускія Ведамасьці», 2005 г.
6. Зянон. Беларуска-Расейская вайна. Belarus is easten outpost. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2005 г.
7. Зянон Пазьняк. Прамаскоўскі рэжым альбо як адбываецца разбурэньне Беларусі. -- Нью- Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы», 2005 г.
8. Зянон Пазьняк. Прамаскоўскі рэжым альбо як адбываецца разбурэньне Беларусі (2-е выданьне). -- Варшава, «Беларускія Ведамасьці», 2005 г.
9. Сяргей Навумчык. Сем гадоў Адраджэньня альбо фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі (1988 – 1995). -- Варшава, 2006 г.
10. Галіна Пазьняк. Беларусь у сэрцы. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2007 г.
11. Зянон Пазьняк. Нацыянальныя каштоўнасьці. -- Варшава, 2007 г. (Містыфікацыя. Выдадзена ў Беларусі, 1/16 д.а., 60 с.).
12. Зянон. Дарога. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2007 г.
13. Зянон Пазьняк. Развагі. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 1, артыкулы і матэр'ялы (1990 — III.1996). -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2007 г.
14. Парсіваль (2-е выданьне). -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2009 г.
15. Зянон Пазьняк. Нацыянальныя каштоўнасьці. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2009 г. (1/32 д.а., 192 с.)
16. Зянон Пазьняк. Цяжкі час. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 2, артыкулы і матэр'ялы (IV.1996—2002). -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2010 г.
17. Зянон Пазьняк. Цяжкі час. Працяг. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 3, артыкулы і матэр'ялы (2003--2010). -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2010 г.
18. Зянон Пазьняк. Сяргей Навумчык – Дэпутаты Незалежнасьці. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2010 г.
19. Зянон Пазьняк. Дэклярацыя – першы крок да Незалежнасьці. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2010 г.
20. Зянон Пазьняк. Сэсія Незалежнасьці. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2011 г.
21. Зянон Пазьняк. Незалежнасьць Беларусі. 20 гадоў. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2011 г.
22. Зянон Пазьняк, Валеры Буйвал. Абарона Курапатаў. Народны Мэмарыял. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2012 г.
23. Зянон Пазьняк. Добрая фатаграфія. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2012 г.
24. Галіна Пазьняк. Менскі гарсавет у пэрыяд нацыянальнай рэвалюцыі (1990-1991). -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2012 г.
25. Зянон. Тэрра Дэй. -- "Беларускія Ведамасьці", -- Варшава, Нью Ёрк, Вільня, 2014 г.
26. Zenon. OJCZYZNA WIECZNA. -- "Беларускія Ведамасьці", -- Warszawa, 2014.
27. Аўген Калубовіч. Мова ў гісторыі Беларускага пісьменства. (Факсімільнае выданьне. Прадмова да факсіміле – Зянон Пазьняк). -- Варшава «Беларускія Ведамасьці», 2015 г.
28. Зянон. Палын-палын…-- Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2016 г.
29. Зянон Пазьняк. Незалежнасьць. – Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2016 г.,
30. Zenon. TERRA DEI. – New York, Warszawa, – «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), "Беларускія Ведамасьці", 2017 г.
31. Зянон. Глёрыя Патрыя. – Вільня, 2000 г.
32. Даніэль Дэфо. Рабінзон Круза. (Факсімільнае выданьне. Прадмова і пасьляслоўе – Зянон Пазьняк). – Нью Ёрк – Варшава, – БВТА, «Беларускія Ведамасьці», – 2017 г.
33. Зянон Пазьняк. Vox Angelica. Кніга перакладаў. – Нью Ёрк- Варшава, – «Беларускія Ведамасьці», – 2018 г.
34. Зянон Пазьняк. Краявід перад нізінай. – Варшава – Нью-Ёрк, – «Беларускія Ведамасьці», – 2018 г.
35. Зянон Пазьняк. Цяжкі час. Разбурэньне. т. IУ, – Нью-Ёрк – Варшава, «Беларускія Ведамасьці» – 2018 г.
36. Зянон Пазьняк: Беларуска-амэрыканская фатаграфія,1 – Новы Ёрк – Варшава, «Беларускія Ведамасьці» – 2019 г.

ISBN: 978-83-948192-3-1
(Пазьняк Зянон Станіслававіч)

Зянон Пазьняк:
Zianon Pazniak:

Беларуска-Амэрыканская ФАТАГРАФІЯ,1
Belarusan-American PHOTO,1
Пэрыядычнае выданьне
Periodical

*Выданьне і друк коштам аўтара. Некамэрцыйнае выданьне*

**Зянон Пазьняк: Беларуска-Амэрыканская ФАТАГРАФІЯ,1 // Belarusian-American PHOTO,1 Пэрыядычнае выданьне // Periodical.** Выданьне: «Беларускія Ведамасьці», Нью-Ёрк – Варшава, 2019. – 138 с. Папера афсэт. Леттэр, фармат 8,5x11; 69 друк. арк. Наклад 300 асоб. Альманах беларуска-амэрыканскай фатаграфіі.
ISBN: 978-83-948192-3-1

Кампутарны склад, укладаньне, вокладка, макет – *Зянон Пазьняк*
Кампутарны набор тэкстаў – *Галіна Палачаніна*
Пераклад па ангельску – *Валеры Буйвал*
Друк – LULU
Наклад – 300 асобнікаў
Папера – афсэтная
Фармат аркуша – Леттэр
Фармат друку – 8,5x11 тз.
Ум. друк. Арк. – 6,27
Ул. друк. Арк. – 69
Аддрукавана: у красавіку 2019 г. у ЗША

ISBN: 978-83-948192-3-1